# К. Чукоўскі



## Малюнкі Ул. Суцеева

пераклад Алена Церашкова

by Urus Hyby









Раз прачнуўся я у ложку,
Думаў паваляцца трошкі,
Ды падушка — на падлогу,
З ёю коўдра у дарогу,
Посцілка ляціць пад столь -
Што за жартачкі са мной?



Я за свечку — свечка ў печ!
Я за кніжку — тая прэч,
Скок ды скок — у куток!






Я хачу папіць гарбаты.
Дзе мой самавар пузаты?
Падбягаю — але ж не!
Прэч збягае ад мяне!

*Што ж такое адбылося?*
*І чаму усё наўкола*
*Пераблыталася проста,*
*Закруцілась, нібы кола?*
*Нагавіцы з рукавіцамі*
*Паляцелі за нажніцамі.*
*А нажніцы — за паліцаю,*
*А паліца — за катом!*
*Ўсё нясецца, ўсё нясецца,*
*Мне у рукі не даецца!*
*Перавернуты ўвесь дом!*





Раптам, сам у пене мыльнай
Ды з кульгаваю нагой,
Лезе з ваннай рукамыйнік
Ды ківае галавой:
"Ах ты, брудны, ты, мурзаты!
Як нямыты падсвінак!
А нячэсаны, калматы!
Нельга, нельга, нельга так!
У цябе на шыі — вакса,
У цябе пад носам — клякса,
На руках такія кінцы,
Ажно збеглі рукавіцы!



Ўбачыўшы такія пяты,
Боты проста зніклі з хаты!
Нават боты, нават боты
Напужаліся брудноты!

Кожны зранку падымаецца
Ды адразу ж умываецца!
Хто ў рацэ, а хто — ў расе.
Зранку мыюцца усе:
Звераняты, птушкі, людзі...
Ты адзін увесь у брудзе!
Ад цябе усе збягаюць,
Стаць і побач не жадаюць!



Я кірую цэлым войскам
Рукамыйнікаў, каўшоў,
Шчотак ды мачалак розных,
Паласатых ручнікоў!
Варта клікнуць мне жаўнераў,
Варта толькі загадаць -
Той жа момант у кватэру
Рукамыйнікі ўляцяць!
Стануць тупаць ды скакаць,
У ваду цябе макаць!
Галасі не галасі -
Тут ты рады не дасі!

Бразнуў ён у медны таз
Ды зароў: "Карабарас!"
І адразу цёткі-шчоткі
Затрашчалі, бы трашчоткі,
Сталі церці мяне:
"Будзеш мыцца ці не?
Нават тых, хто комін чысціў,
Мы адмыем чыста-чыста!
Пашаруем трохі —
Станеш ты чысцёха!"





*Тут падскочыла і мыла,*
*Стала мыліць валасы.*
*Так у воку зашчаміла -*
*Быццам джгнулі дзве асы!*

*Ад мачалкі звар'яцелай*
*Я ляцеў, ляцеў, ляцеў...*
*Праз дарогу, па кустах,*
*Па завулках, па дварах,*
*Перабег цераз гарод,*
*Пераскочыў цераз плот...*
*А яна за мной імчыцца*
*Ды грызе, нібы ваўчыца!*



Кракадзіл, з маіх сяброў,
З дзецьмі па алее йшоў.
Толькі здзіўлена раўнуў
І мачалку каўтануў!
Нібы каўку, нібы каўку,
Нібы каўку, каўтануў!
Ну, а потым зарычэў на мяне,
Гэтак злосна закрычэў на мяне!
"Ну-ка, прэч, ідзі дамоў!" — кажа мне.
"З мылам твар ды рукі мой!"— кажа мне.
"А сустрэну непамытага зноў -
Праглыну без непатрэбнае слоў!"





Прыпусціў я, як ніколі не бег!
Дома хуценька у ванну забег,
Мылам, мылам, мылам, мылам
Твар ды шыю мыў бясконца!
Змыў і ваксу, і чарнілы -
Аж заззяў нібыта сонца!



Падляцелі нагавіцы,
Папрасілі: "Апраніце!"

Тут і дранікі ў смятане
Просяцца у роцік самі,

Разам і сшыткі ды алоўкі
У партфель палезлі лоўка!




Сам Вялікі Рукамыйнік,
Мыйных Сродкаў Кіраўнік,
Як мяне агледзеў пільна,
Падарыў мне свой ручнік.
Ён мяне пацалаваў,
Ён мяне павіншаваў:




"Вось такім цябе люблю я!
Вось такім цябе хвалю я!
Бруд нарэшце ты адмыў,
Мне, старому, дагадзіў!"

Трэба мыцца ды купацца!
Дружна скажам хорам:
Тым, хто брудны ды нямыты -
Сорам, сорам, сорам!

Вітаем мыла духмянае
Ды ручнікі ільняныя!
Вітаем зубную пасту,
Вітаем грабеньчык часты!

Дык будзем жа мыцца, купацца
Ці проста вадой абліваццa
У рэчцы, у моры, у ванне,
У сажалцы, у акіяне,
У душы, у бочцы, ў вядзерцы,
У возеры — дзе давядзецца!
У брудзе не будзем нідзе!
Вечная слава вадзе!

















Для чтения родителями детям

Корней Иванович Чуковский

# МОЙДОДЫР

Сказка

*Книжка-игрушка с вырубкой*




*Художник В. Сутеев*
*Цветовая обработка оригиналов Г. Алимова*

Редактор *Г. Коненкина*. Художественный редактор *М. Салтыков*
Технический редактор *Г. Рыжкова*. Корректор *И. Мокина*
Компьютерная вёрстка *Т. Барковой*

Санитарно-эпидемиологическое заключение
№ 77.99.02.953. Д.004829.06.06 от 07.06.2006 г.

Подписано в печать с готовых диапозитивов 02.10.2006. Формат 60x90/8.
Усл. печ. л. 2,0. Доп. тираж 10 000 экз. Заказ № 1984

ООО «Издательство Астрель»
129085, г. Москва, проезд Ольминского, 3а

ООО «Издательство АСТ»
170002, Россия, г. Тверь, пр-т Чайковского, д. 27/32

Наши электронные адреса: www.ast.ru
E-mail: astpub@aha.ru

Общероссийский классификатор продукции
ОК-005-93, том 2; 953000 — книги, брошюры

ISBN 5-17-006211-7 (ООО «Издательство АСТ»)
ISBN 5-271-02434-2 (ООО «Издательство Астрель»)



ОАО «Фабрика офсетной печати № 2»
141800, Московская область, г. Дмитров, ул. Московская, д.3.